


*„Дарагая „Зорка", надрукуй маю фатакартачку.*
*Дарэк з Дубічаў Царкоўных."*

№ 7 (1175) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 17.II.1980 г.

Г. Мароз

# Кармушка для птушак



— Дзеду, міленькі, даражэнькі, — гаворыць унук і лашчыцца, як кот.

Ну, думаю, штосьці ўжо будзе ў мяне прасіць.

— Чаго хочаш? Кажы адразу і не падлізвайся. Калі змагу, памагу. Калі не — адашлю да таты.

— Зможаш, дзедку, зможаш. Напэўна. Я ведаю. Паможаш мне зрабіць кармушку для птушак?

— Ага, кармушка цябе мучыць? А дзе ж ты аб гэтым пачуў? — пытаю малога.

— У тэлевізары чуў, дзедку, як пані запрашала памагаць птушкам. І Болек і Лёлек рабілі, — балбоча малы.

— Ды не адну, — падказваю.

— Але мы для вароны не будзем рабіць, праўда, дзедку?

— Пэўна што не. У нас няма такіх адважных варон, — каб мы хоць адну зрабілі, думаю сабе так.

— І яшчэ, дзедку, Толік Мішыных чытаў у „Зорцы“ заклік, каб памагаць звярам і птушкам. І як хто памагае, у „Зорку“ трэба напісаць. А я ж не памагаю! І ў „Зорку“ не напішу! Я так доўга ўсё малы і малы, і пісаць не ўмею, — на тварыку малога з'явілася знаёмая грымаса.

— А ты, Алічак, не падай духам, — пацяшаю малога. — Мы з табою і кармушку зробім, і ў „Зорку“ напішам. А можа і кніжачку атрымаем. „Зорка“ за дагляд звяроў і птушак будзе кніжкі прызнаваць цікавыя.

— Дык калі, дзедку, бярэмся за работу? — не церпіцца малому.

— Можа ж не цяпер, — кажу. — Найперш трэба павячэраць і спаць класціся. А заўтра возьмемся за работу.

— Што ты там мучыш дзіця? — умяшалася бабка. — Няхай вячэрае ды кладзецца.

— Добрым справам трэба змоладу вучыць, — кажу я.

— Ну, дзедку, дык хадзі спаць. А заўтра ранкам будзі мяне адразу. Толькі не забудзь, дзедку...

— Не, не, не забуду, не бойся. Спі.

І бачу, вочкі плюшчацца ў малога, раз-пораз ён пазяхае. Ну, думаю, адпачывай. Прыемных сноў табе.

Хутка малы заснуў, а незадоўга на тварыку паявілася ўсмешка. Нешта яму снілася. Можа ён птушак лічыў у кармушцы? А можа ўжо кніжку разглядаў, якую атрымаў ад „Зоркі“! Прыемныя сны, відаць, у малога.

Раптам Алік абудзіўся і пытае:

— Ці гэта ўжо раніца? Ты, дзедку, ужо ўстаў?

— Не, даражэнькі, спі яшчэ, спі. Я толькі спаць збіраюся.

— Нагаварыў малому столькі, што той і спаць не можа, — папракае мяне старая.

— Някепская гэта справа — даглядаць звяроў і птушак, — адказваю я. І цешуся, што малы мае да гэтага ахвоту. Папраўляю яму падушку і думаю: „Зраблю табе кармушку, абавязкова зраблю.“

**Д. Слаўковіч**

# Механізацыя

На глінішчах заўжды поўна дзяцей. Вядома, такая гара з упадзінай. Трамплінчыкі — любата! Катайся, колькі ўлезе.

Юзік, як устане, паесць, дык за санкі і — гайда на глінішчы.

І седзячы з'язджае, і задам наперад, і на жываце. Адно дрэнна: санкі назад, на гару, самому цягнуць трэба.

Задумаўся Юзік: „Як зрабіць, каб пазбегнуць гэтае работы?"

— Юзік, ты чаго не катаешся? — крычаць сябры.

— Механізацыю абмазгоўваю.

— Якую яшчэ механізацыю?

— Пабачыце, — адказвае. А сам усміхаецца: прыдумаў-такі!

Узяў Юзік з застрэшка вуду, падкараціў. Замест кручка на канцы катлету прымацаваў. Шарыка адвязаў ад будкі, на павадок узяў.

Глядзяць хлапчукі і дзяўчынкі — дзіву даюцца: едзе Юзік з горкі, а побач Шарык на прывязі.

— Юзік, навошта сабаку муштруеш?

— Выкарыстоўваць буду як рухавік.

— Як жа так?

— Зараз убачыце.

І ўбачылі.

З'ехаў Юзік з горкі, павадок за санкі зачапіў.

— Но, Шарык, цягні мой транспарт на гару.

Той ні з месца.

Юзік вуду раскруціў, сам рукою за санкі ўхапіўся.

Убачыў Шарык перад носам катлету, дастаць яе захацеў. А яна перасунулася наперад. Шарык за ёю, яна далей.

Так і пачаўся пад'ём. Спераду катлета, за ёю Шарык, за Шарыкам санкі, за санкамі Юзік.

Ледзь не да самага верху дабраліся. Ды, відаць, Шарык з сіл выбіўся. А мо зразумеў, што яго ашукваюць? Спыніўся ён. Азірнуўся.

— Но! Пайшоў-пайшоў! — падганяе Юзік. І адчувае, што назад сунецца.

— Давай-давай! Наперад! — націскае ён на свой „рухавік", вудай з катлетаю матляе.

А „рухавік" не ўключаецца.

Раптам ногі хлопчыка пакаўзнуліся, ён узмахнуў рукамі і бразнуўся на слізкі, укатаны спуск. Санкі тузануліся і апынуліся на Юзіку. Шарыку нічога не заставалася як скочыць на санкі, якія імкліва памчаліся ўніз на сваім гаспадару.

Так і з'ехалі яны з горкі: санкі на „механізатару", а сабака на санках.

Дзеці наверсе аж качаліся ад смеху, гледзячы, як Юзік з-пад санак выбіраўся, а Шарык катлету на вудзе даядаў.



У. Даўтартас



Я адразу палюбіў гэты стары парк. Добра было сядзець ля акна і глядзець на таполі без лісця, на разгалістыя елкі з цяжкімі шапачкамі снегу на галінах. Аднойчы я глянуў у акно і яшчэ больш уцешыўся: на моцнай яловай галіне, якая амаль датыкала да акна, сядзела вавёрка. У пярэдніх лапках яна нешта трымала і старанна грызла. Скончыла есці, пакруціла галавой, аглянулася па баках і саслізнула па дрэве ўніз.

Я асцярожна ўстаў, каб лепш бачыць, куды яна спяшаецца. А вавёрка накіравалася проста на куст шыпшыны — ён рос паблізу. Каля шыпшыны яна пачала разграбаць лапкамі снег. Працавала старанна і спрытна. Вось ужо яе цёмная пастаць схавалася ў ямцы, тырчаў толькі выгнуты дугою хвост.

„Так яе вельмі лёгка злавіць“, — падумаў я. Але вавёрка не сядзела доўга ў ямцы. Выскачыла — і скок, скок зноў на елку. І зноў нешта грызе. Тады я зразумеў: там, пад кустом шыпшыны, у яе кладоўка. Але чаму ўнізе, а не на дрэве? Гэта было незразумела. Разгадка прыйшла потым.

Кожную раніцу я бачыў вавёрку. Яна наведвала сваю схованку. Я прызвычаіўся, што ў мяне ёсць суседка, і, прачынаючыся, першнайперш падыходзіў да акна і выглядаў яе на яловай галіне. Калі елка была пустая, я чакаў. Вавёрачка абавязкова з'ўлялася, і мы снедалі. Я загаварваў з ёй, махаў ёй рукой, а яна ківала маленькай галоўкай і вясёла стракатала.

Нашым ранкавым сустрэчам перашкодзіла завіруха. Два дні і дзве ночы бушавала завея, выў вецер. У старым парку гнуліся, стагналі дрэвы. Злосны парыў ветру зламаў яловую галіну, тую самую, на якой мая сяброўка любіла снедаць. Я глянуў на вершаліну дрэва. Бо ж там, у сваёй схованцы, сядзіць звярок і чакае, чакае, калі палепшыцца надвор'е.

На трэці дзень вецер сціх. Я апрануўся цяплей і выйшаў. У парку не было ніводнай сцежкі. Усюды ляжаў пушысты, нікім не крануты снег. Я паблукаў па заспах, пралез да шыпшыны. Куст тануў у глыбокім снезе, зверху тырчала толькі некалькі галінак з сухімі чырвонымі ягадамі.

— Добры дзень! — нечакана прагучала ў мяне за плячыма.

Я павярнуўся на звонкі голас. Перада мной стаяў хлопчык. Я здзівіўся: паблізу няма ніякага жылля.

— Здароў, дружок! — адказаў я і з цікавасцю пачаў разглядаць яго.

Хлапчуку было гадоў сем-восем. Ватоўка, вялікія боты, вялізная кудлатая шапка. Ад марозу ярка гарэлі круглыя шчокі і задзерты нос-гузічак.

— Так я і ведаў, — уздыхнуў хлопчык і паглядзеў на шыпшыну. — А Сімка кажа — не... — і ён паківаў галавой.

— Сімка? — асцярожна спытаў я. — Які Сімка?

— Сімку не ведаеце? Ён жа ўсё ведае. Яго бацька — рыбак.

— Цяпер буду ведаць. І што ён кажа — Сімка?

— Гэта ўсё завіруха вінавата. — Хлопчык узняў на мяне вочы. — Вы тут жывяце?

— Часова. А што?

— Мне б лапату....

Я пайшоў у хлеў і прынёс лапату.

Хлопчык узяўся адкопваць куст шыпшыны.

Вельмі хацелася спытаць у хлапчука, чаго ён шукае, але ён загаварыў першы.

— У нашай вёсцы ўсе платы пазаносіла. А мне падабаецца, што вёска без платоў.

— Далёка твая вёска?

— Напрасткі — кіламетр будзе. Мы — рыбакі.

Куст амаль вызваліўся ад снегу.



Я пачаў непакоіцца, як бы хлапчук не натрапіў на вавёрчыну схованку.

— Скажы мне, браток, чаго ты там шукаеш? — спытаў я і падышоў бліжэй.

Хлопчык выпраставаўся і з усмешкай кінуў мне:

— Хадзіце, хадзіце сюды, я вам нешта пакажу.

Так... Я хутка падышоў.

— Бачыце ямку? Вунь там, бачыце?

— Бачу.

— Там быў пачастунак, а цяпер няма. Няма, затое будзе! — І ён запусціў руку ў кішэню ватоўкі, дастаў адтуль жменю дробных сухарыкаў, сухіх жалудоў, бліскучых каштанаў.

Дык вось яно што!

— Тут, на дрэве, мая сяброўка жыве, — з гонарам сказаў хлапчук і паказаў рукой на вялікую елку.

— Мы таксама знаёмы. Даўно сябруеце?

— Другі год. Давайце адыдзем убок. Зараз прыбяжыць...

Хлапчук прысыпаў кладоўку снегам і адступіўся. Я — за ім. Мы прысланіліся да таполі і пачалі чакаць.

Вавёрачка паказалася хутка. Падбегла да схованкі і вярнулася на дрэва з двума жалудамі ў зубах. Потым зноў спусцілася на зямлю, і ўжо не адна — побач лёгкімі скокамі неслася другая вавёрка.

—Госцю прывяла, — шапнуў хлапчук. — Хай частуецца, абедзвюм хопіць.

Я глядзеў на вавёрак і на хлапчука. Звяркі елі жалуды, весела стракаталі, а іх малы сябар, радасна затаіўшы дыханне, глядзеў, як яны піруюць.

— Ну, я пайду, — сказаў ён. — Дарога не блізкая. Дзякую вам за лапату.

Ля варотаў мы развіталіся.

— Калі прыдзеш?

— За тыдзень, — і, быццам нешта ўспомніўшы, дадаў: — Хіба што зноў завіруха здарыцца раней...

Я глядзеў яму ўслед. Хлапчук ледзь выцягваў са снегу цяжкія боты, але ўпарта ішоў наперад. Шчаслівай дарогі!




## ЧАМУ МІРГАЮЦЬ ЗОРКІ?

Непаўторная прыгажосць зорнага неба. З касмічных караблёў неба здаецца чорным. На ім бачны тысячы неміргаючых зорак рознай яркасці і рознага колеру: блакітных, белых, жоўтых, чырвоных.

Падобна таму, як кавалак жалеза пры награванні ў горане мяняе свой колер ад цёмна-вішнёвага да ярка-белага, так і адрозненне ў колерах зорак указвае на адрозненне іх тэмператур. Самыя халодныя — чырвоныя зоркі — маюць тэмпературу паверхні 2-3 тысячы градусаў, а самыя гарачыя — блакітныя — 25-30 тысяч градусаў. Наша Сонца — бліжэйшая да нас зорка — мае жоўты колер, тэмпература яго паверхні 6000 градусаў. Усе зоркі знаходзяцца ад нас значна далей за Сонца.

Пры назіранні зорак можна прыкмеціць, што яны быццам успыхваюць, дрыжаць, а яркія зоркі, блізкія да гарызонта, яшчэ бесперапынна пераліваюцца living рознымі колерамі. Асабліва моцна міргаюць зоркі ў марозныя ночы, у ветранае надвор'е і пасля дажджу. Прычынай гэтага з'яўляецца зямная атмасфера, праз якую праходзіць святло ад зорак.

Планеты ў адрозненне ад зорак не міргаюць, таму што яны бліжэй да нас, мы іх бачым не кропкамі, а кружочкамі.

Зімнія ночы — найлепшы час для назіранняў, калі становяцца бачнымі амаль усе найбольш яркія зоркі нашага паўночнага неба. Вывучаць назвы сузор'яў на небе з дапамогай зорнай карты не цяжэй, чым запомніць на карце нанесеныя на ёй гарады, моры і рэкі. Назіранні за зоркамі прынясуць вам шмат прыемных хвілін і, акрамя таго, веданне зорнага неба важнае для вызначэння часу і арыентавання па мясцовасці.

**Г. Дамачова**

## СПАРТЫЎНЫ ТРАБАНТ

У гэтым годзе ў ГДР будзе выпушчаны новы аўтамабіль на базе вядомага мадэлю „Трабант". Сімпатычны знешне, ён будзе вельмі прыдатны для спартсменаў, любіцеляў турызму і рыбалоўства.

## АКУЛЯРЫ БЯСПЕЧНАСЦІ

Калі машыніст электравоза нечакана засне або страціць прытомнасць, можа здарыцца бяда. Каб ад гэтага засцерагчыся, у ГДР створаны спецыяльныя акуляры бяспечнасці, якія пільнуюць, як часта моргаюць павекі ў машыніста. Калі павекі не моргнуць на працягу 20 секунд, гэта значыць, што вочы зачынены, а гэта сведчыць аб тым, што машыніст спіць або страціў прытомнасць. Аналізатар, спалучаны з акулярамі, у такім выпадку дае гукавы сігнал. Калі яшчэ праз сем секунд машыніст не пяройдзе на ручное кіраванне, дык аўтаматычна ўключыцца тормаз — і поезд спыніцца.

# Пазнаёмімся

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 86, к. I, кв. 27. Інэса Харук, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 84, к. I, кв. 46. Таня Раманава, вучаніца 7 класа.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 84, к. I, кв. 46. Люда Раманава, вучаніца 8 класа.

* ✲ *

Аз. ССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 1, кв. 63. Ничкапиной Лилии. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 1, кв. 42. Цаплевой Анне. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, д. 1, кв. 63. Ничкапиной Вике. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, д. 1, кв. 42. Цаплеву Славику. Хлопчык вучыцца ў чацвертым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, 370073, г. Баку, ул. 7-ая Хребтовая, квартал 523, бл. I, дом 12, кв. 14. Тёркиной Миле. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім-2, Гродзенскай вобласці, вул. Палявая, 19. Слава Клок, 11 гадоў.

* ✲ *

Зоя Пугач і Іра Малавецкая (па 16 гадоў), 15-649 Беласток-Старасельцы, вул. Алейнічака 54.



У вёсцы Вярхлес. Фота М. Гайдука.



## ШКОЛА МАЛЯВАННЯ

*Навучыся маляваць птушачку, расфарбуй яе каляровымі алоўкамі або фарбамі і прышлі ў „Зорку“. За найпрыгажэйшую птушачку — кніжка.*

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**